**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**№37(649)**
**13 верасня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**












**З кожным годам наш горад становіцца прыгажэйшым. Аднак свой унёсак у гэта робяць не толькі мясцовыя ўлады, але й камерсанты. Прыцягвае ўвагу жыхароў і гасцей горада ансамбль з двух будынкаў, якія ўзвёў Свяціслаў Іосіфавіч Пацэвіч – крама «МКТ+» і крама «Казімір». Апошнюю краму, якая адкрылася на Дзень беларускага пісьменства і друку, ён назваў у гонар свайго дзеда Казіміра. У новай краме ёсць усё: ад насення да розных гаспадарчых прыладаў і запчастак да аўтамабіляў.** *Фота Ул. Скрабатуна.*









## Не незаконнай зброі, толькі разам мы зробім сваё жыццё бяспечней

**Паважаныя жыхары г. Глыбокае і Глыбоцкага раёна!**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 10 па 14 верасня 2012 года ў мэтах процідзеяння незаконнаму звароту зброі, боепрыпасаў, выбухных прылад і выбуховых рэчываў, аздараўленні крымінагеннага становішча, злучанай з іх ужываннем праводзяцца адмысловыя аператыўна-прафілактычныя мерапрыемствы «Арсенал».

Аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама нагадвае, што за незаконны зварот зброі, боепрыпасаў, выбухных прылад і выбуховых рэчываў усталявана крымінальная адказнасць з пазбаўленнем волі на тэрмін да дванаццаці гадоў. Асобы, якія добраахвотна здалі незаконна захоўную зброю, боепрыпасы і выбуховыя рэчывы, вызваляюцца ад крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці.

Па тэлефонах «гарачай лініі» аддзела ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама «22702, 22641, 22682, МТС 5972174» або па тэлефоне «102» Вы можаце паведаміць інфармацыю пра незаконна захоўную зброю, боепрыпасы і выбуховыя рэчывы, а таксама атрымаць інфармацыю пра парадак добраахвотнай рэшты такіх прадметаў».

***В.Д. Барыла,*** *старэйшы інспектар па дазваленчай працы ААПП Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

Глыбоцкі раён

# Можна жыць і на вёсцы

■ Станіслаў Раманчук

**Не сакрэт, што ўжо колькі дзесяцігоддзяў беларуская моладзь з глыбінкі, не толькі з вёсак, але і з малых гарадоў і пасёлкаў актыўна пакідае назаўжды родныя мясціны ў пошуках лепшай долі.**

Але тыя, хто застаецца жыць і працаваць на сваёй малой радзіме, бываюць шчаслівымі і не шкадуюць аб сваім выбары. Гэта пацвердзіў чарговы абласны сельскагаспадарчы конкурс "Уладар сяла", пераможцам якога стала сям'я Святланы і Дзмітрыя Лук'янёнкаў з Глыбоцкага раёна. Абласны этап аднайменнага рэспубліканскага сямейнага праекта напярэдадні нацыянальнага кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2012" адбыўся ў рабочым пасёлку Фарынава Полацкага раёна. У гэта мястэчка ў выхадны дзень з'ехаліся з розных куткоў вобласці маладыя сем'і і іх групы падтрымкі, прыйшлі на незвычайную імпрэзу і шматлікія мясцовыя жыхары. Ужо першы тур-візітоўка "Сялянская хата ўсім багата" паказаў, што сярод моладзі глыбінкі жывуць сапраўдныя гаспадары, якія прадэманстравалі свае падвор'і ў акружэнні дароў саду, выпечаных прысмакаў на фоне самаробных прыгожых кошыкаў, карцін і сувеніраў. Усе былі ў захапленні ад цікавых конкурсаў "Дзедава рыбалка", "Наезніца", у якім трэба было запрэгчы каня і даставіць мяхі са збожжам, "Дрывасекі" і іншых. У выніку журы вызначыла, што прадстаўнікі Глыбоччыны набралі найбольшую суму балаў і сталі пераможцамі менавіта напярэдадні 10-й гадавіны свайго вяселля. Глава сям'і Лук'янёнкаў працуе ў лясніцтве, а яго жонка выхавальнікам дзіцячага садку, яны гадуюць двах дзяцей. Прыкладна такі сямейны стаж і столькі дзетак і ў сям'і Кавалеўскіх з суседняга Пастаўскага раёна, якія фінішавалі ўслед за пераможцамі абласнога конкурсу.



Пастаўскі раён

# На школе з'явіўся замок

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ сёлетняй вясной у вёсцы Целякі, што ў Пастаўскім раёне, выдзялялася ўзорным парадкам, хараством кветак на клумбах мясцовая базавая школа.**

Аднак цяпер вясковыя старажылы непакояцца, што ж будзе тут з будынкам і вакол яго, паколькі гэту ўстанову адукацыі перад новым навучальным годам закрылі. Між тым, у вёсцы жыве каля ста чалавек, каля паловы з іх у працаздольным узросце. Прыехала і некалькі маладых сем'яў, для якіх былі ўзведзены так званыя "прэзідэнцкія" домікі. Аднак вучыцца ў школе ўсё роўна не было каму, засталіся толькі 16 вучняў і з-за эканамічных праблем закрылі па камандзе зверху ў раёне чарговую малакамплектную школку. Нічога не зробіш, старэе глыбінка імкліва, хоць і паўсталі на пастаўскай зямлі 10 аграгарадкоў. Аднак на дэмаграфічную сітуацыю яны мала паўплывалі, паколькі сёлета на Пастаўшчыне прыйшло на вучобу на 80 першакласнікаў меней, чым год назад. Усяго ў адным з буйнейшых на Віцебшчыне па колькасці насельніцтва раёнаў з 1 верасня селі за парты 3645 хлопчыкаў і дзяўчынак. Ды і большасць з іх вучыцца менавіта ў гарадскіх пяці школах і раённай гімназіі для адораных дзяцей са сваім інтэрнатам. У раёне засталося зараз 28 агульнаадукацыйных школ, а ў пачатку новага стагоддзя былі 44 сярэднія, базавыя і пачатковыя школы. Праўда, у вёсцы Целякі, якая засталася без школы, у адрозненне ад іншых, нейкая жыццёвая перспектыва ёсць. Тут працуюць яшчэ пошта, магазін, ФАП, а таксама нядрэнныя заробкі ў вядучай гаспадарцы краю "Хацілы-агра". Дарэчы, улады паклапаціліся аб тым, каб дзяцей на заняткі і дамоў вазілі на аўтобусе. Пасля ўрокаў з СШ №3 райцэнтра вязе вучняў у родныя мясціны, у былы цэнтр калгаса з красамоўнай назвай "Шлях да камунізму" дадатковы спецыяльны рэйс.

Полацкі раён

# Крыніца здароўя да юбілею

■ Чэслаў Якубовіч

**Увогуле чалавечае жыццё пралятае вельмі хутка і нават старажылы, бывае, дрэнна памятаюць, як жылі раней.**

Аднак калі ў пачатку восені адзін з аддаленых мікрараёнаў Наваполацка – гарпасёлак Баравуха адначыў 200-годдзе свайго заснавання, то многія яго жыхары даведаліся шмат цікавага пра свой родны кут. З нагоды юбілею тут арганізавалі традыцыйныя святочныя ўрачыстасці, а для мясцовых жыхароў прыемным сюрпрызам стала зніжэнне кошту праезду да 1800 рублёў за адну паездку на грамадскім транспарце як у Полацк, так і ў нафтаград. Акрамя гэтага Баравуха пры падтрымцы Еўрасаюза атрымала грант на стварэнне папулярнай на кантыненце экалагічнай велатрасы "Крыніца здароўя". У гэтых мясцінах людзі з задавальненнем жывуць найперш з-за цудоўных лясных краявідаў і прыроды па суседстве, бо ў ваколіцах размясціліся 8 чыстых азёр. Гарпасёлак мае і багацейшую ваенную гісторыю, памятае самога Будзённага на адкрыцці гарнізона і жахлівыя старонкі фашысцкага канцлагера, у якім замучылі амаль 30 тысяч чалавек. У мінулым тут прайшлі войскі Напалеона, потым падчас 1-й Сусветнай вайны на рамонце чыгункі працаваў у спецатрадзе Янка Купала. У гады вайны Баравуху поўнасцю спалілі, але яна адрадзілася і стала буйным ваенным гарадком дэсантнай дывізіі. У наш час пасёлак бурна развіваецца і тут працуюць ужо 56 розных прыватных фірм. З далучэннем да Наваполацка лепей сталі ўтрымліваць жыллёва-камунальную гаспадарку, актыўна вядзецца на ўлонні маляўнічай прыроды індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 13.09.12 | | | | Пятніца 14.09.12 | | | | Субота 15.09.12 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +17 | +23 | +16 | +12 | +12 | +15 | +11 | +10 | +13 | +16 | +12 |
| Ціск | 743 | 743 | 743 | 743 | 744 | 743 | 744 | 742 | 741 | 738 | 738 | 739 |
| Вільготнасць | 88 | 88 | 52 | 85 | 88 | 94 | 68 | 68 | 74 | 72 | 60 | 77 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 1 Ю-В | 2 Ю-З | 1 Ю-В | 2 С-В | 3 С | 3 З | 4 Ю-З | 5 Ю | 7 Ю-З | 6 Ю-З | 5 З |

| | Нядзеля 16.09.12 | | | | Пнд.17.09.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +12 | +18 | +12 | +9 | +13 | +16 |
| Ціск | 743 | 744 | 746 | 746 | 748 | 746 | 745 |
| Вільготнасць | 85 | 79 | 44 | 85 | 96 | 90 | 65 |
| Вецер м/сек | 3 З | 4 З | 5 С-З | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 3 Ю | 5 Ю-З |

# Лічба нумара

**128** – столькі малакамплектных агульнаадукацыйных школ было закрыта сёлета ў Беларусі па рашэнні Міністэрства адукацыі напярэдадні новага навучальнага года. Для некалькі тысяч вучняў, іх бацькоў і застаўшыхся без звыклага месца працы настаўнікаў, а таксама для мясцовага кіраўніцтва такія меры – балючы, але вымушаны крок. Дарэчы, з усіх рэгіёнаў краіны гэта праблема найбольш востра стаіць менавіта ў нашай Віцебскай вобласці, дзе ліквідавалі яшчэ 18 установ адукацыі, з іх нават адну сярэднюю школу. Прыйшлося пайсці на Віцебшчыне на змяненне статусу таксама 19 школ у глыбінцы ў бок паніжэння і толькі адна базавая школа стала СШ.

Справа ў тым, што ў Прыдзвінні не толькі найбольш складаная дэмаграфічная сітуацыя, але ў нас дагэтуль ёсць нават 6,5 тысяч маланаселеных жылых пунктаў. Для параўнання, у суседняй Мінскай вобласці ў сельскай мясцовасці налічваецца вёсак на 2 тысячы меней, яны там больш буйныя. Дагэтуль толькі ў Віцебскай вобласці штогод закрывалі па 20-25 школ і на месцах улады ўсяляк супраціўляліся гэтаму працэсу, разумеючы, што калі знікае школа, то нават аграгарадок чакае імклівае старэнне і нават знікненне з геаграфічнай карты.

Дарэчы, у цэлым па Беларусі дзейнічаюць школы, калі ў іх налічваецца ў сярэднім прыкладна да 50 школьнікаў. У нас на Віцебшчыне стараюцца ўтрымліваць установы адукацыі, калі ў класы прыходзяць на заняткі да 20 і болей хлопчыкаў і дзяўчынак. Тым часам у вобласці сталі падвозіць дзяцей на ўрокі ўжо 195 школьных аўтобусаў, сярод якіх 21 такі аўтамабіль новы і набыты ў гэтым годзе. Здараецца, што яны вязуць дзяцей вучыцца і на адлегласць да 20 км, далей ужо проста дорага і танней мець прышкольныя інтэрнаты, як гэта было за савецкім часам.

Аднак цяпер іншы час, суровая проза жыцця дыктуе эканомію бюджэтных расходаў. Невыпадкова на вераснёўскім пасяджэнні ўрада РБ будзе заслухоўвацца ў ліку іншых пытанняў дзейнасць кіраўніцтва Віцебскай вобласці і ягонага ўпраўлення адукацыі, якія не спяшаюцца, як астатнія рэгіёны краіны, закрываць школы. Невядома, якое будзе прынята канчатковае рашэнне, але не выключана, што працэсы закрыцця школ і пачатковых школ-дзіцячых садкоў з-за нізкай нараджальнасці могуць паскорыцца і ў Прыдзвінні, бо жыць трэба па сродках.

Праўда, паўстае пытанне, што рабіць з педагогамі ў сельскай мясцовасці, якія ў выніку ліквідацыі там школ і садкоў, застануцца без працы? Увогуле балючых пытанняў толькі прыбаўляецца, бо апошнім часам у Віцебскай вобласці закрылі яшчэ 9 даволі буйных школ-інтэрнатаў, сярод якіх такія ўстановы ў Бешанковічах, Верхнядзвінску, Варапаеве і ўзніклі пытанні працаўладкавання для многіх іх працаўнікоў. Існуе таксама на месцах пытанне, што рабіць далей з будынкамі закрытых школ, сярод якіх многія памяшканні даволі дабротныя, цагляныя, са спартыўнымі заламі, сталовымі з плітамі, халадзільнікамі.

Была б дзяржава багацейшай, у гэтых будынках можна было не забіваць вокны, а размяшчаць прытулкі для адзінокіх нямоглых састарэлых грамадзян. Але раённыя бюджэты датацыйныя, тут бы з надзёнымі праблемі жыцця справіцца, тое ж гарачае харчаванне школьнікаў забяспечыць. На практыцы, нават у самай багаценькай беларускай сталіцы з 1 верасня падаражэла яно, за адзін школьны абед у Мінску бацькам вучняў трэба выкласці да 10 тысяч рублёў, а ў маі ён каштаваў 8 тысяч.

Сумна і тое, што ў нас у Беларусі становіцца меней пасля закрыцця менавіта беларускамоўных школ. Гэта ж па-ранейшаму нонсенс, што ў двухмільённым сталічным мегаполісе маладыя мінчане могуць вучыцца па-беларуску толькі ў 3 школах і 5 гімназіях. Праўда, па патрабаванні бацькоў адкрыліся ў верасні беларускія класы яшчэ 7 мінскіх школ. Пакуль жа ў новым навучальным годзе на Віцебшчыне ёсць праблемы і з падвозам дзяцей у аддаленыя школы ў трох раёнах вобласці.

З 5 верасня пачаў дзейнічаць у Беларусі таксама і каменданцкі час. У выпадку, калі пасля 11 гадзін вечара на вуліцы будуць знаходзіцца непаўнагалетнія без суправаджэння дарослых і не ўдасца на працягу 3 гадзін перадаць дзяцей родным, альбо апекунам, то міліцыя будзе забіраць падлеткаў да 16 гадоў і дастаўляць у сацыяльна-педагагічныя цэнтры. А вось такія падобныя ўстановы выхавання пуставаць не будуць, бо з пачатку года толькі на Віцебшчыне прыбавілася яшчэ за 7 месяцаў 240 дзяцей, бацькоў якіх пазбавілі правоў на выхаванне…

## Дзень за днём

**Кожны чацвёрты кандыдат у дэпутаты не прайшоў этап рэгістрацыі ў Палату прадстаўнікоў 5-га склікання. Дабавіла галаўной болі ўпраўленцам, што на рэканструемых фермах краіны замест малакаправодаў загадалі мець даільныя залы. Нягледзячы на рост цэн, продаж гарэлкі ў Беларусі ў студзені-ліпені вырас сёлета на 7,2 %, а на сярэдзіну жніўня інфляцыя дасягнула 13,7 %. У параўнанні з дакрызісным перыядам школьныя тавары падаражэлі ў 3 разы і болей. Больш 16 тысяч беларускіх абітурыентаў не пераадолелі ніжні парог (7 балаў) для паступлення ў ВНУ, найбольш – па матэматыцы. Першыя білеты на чэмпіянат свету-2014 у Мінску паступяць у продаж ужо ў сакавіку будучага года.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Спецыяльная экспертная камісія ААН абвінавачіла абодва бакі сірыйскага канфлікту ў шматлікіх ваенных злачынствах, забойствах, масіраваных абстрэлах.

**Нарвегія.** Суд прызнаў забойцу А. Брэйвіка псіхічна здаровым і прызначыў 21 год зняволення, яго могуць пакінуць у турме і далей, калі прызнаюць пагрозай для краіны.

**Сірыя.** Разам з дзвюма высокапастаўленымі ваеннымі ахопленую вайной краіну пакінуў, далучыўся да апазіцыі і збег у Іарданію віцэ-прэзідэнт суніт Фарук аш-Шараа.

**Кітай.** За забойства бізнесмена з Англіі жонку экс-члена Палітбюро Бо Сілая Гу Кайлай асудзілі пажыццёва, яе муж-мільянер мог стаць новым кіраўніком КПК, але "пагарэў".

**Францыя.** Прэзідэнт Франсуа Алланд паабяцаў любой цаной спыніць масавыя хваляванні і пагромы, якія былі ў прыгарадах Тулузы і Амьена, МУС склаў 15 зон асаблівай увагі.

**Эфіопія.** Ва ўзросце 57 гадоў памёр папулярны ў народзе прэм'ер-міністр Мелес Зенаві, ён кіраваў краінай больш 20 гадоў, прычынай смерці палітыка стаў рак мозгу.

**Чэхія.** Паліцыя арыштавала 29-гадовага жыхара Астравы, паслядоўніка нарвежскага тэрарыста Брэйвіка, у яго кватэры знайшлі зброю, выбухоўку і форму паліцэйскага.

**Казахстан.** Падчас антытэрарыстычнай аперацыі ў дачным масіве ў 20 км ад Алма-Аты ў выніку перастрэлкі спецназам былі забіты 9 патэнцыйных баевікоў, раней яшчэ 11 чалавек

**Літва.** Літоўская інвес—тыцыйная група UBIG звернецца ў Міжнародны арбітражны суд у Стакгольме за кампенсацыяй страт з-за зрыву інвестпраекта на базе стадыёна "Трактар".

**Кыргізстан.** МЗС краіны запатрабавала ад Беларусі затрымаць у Мінску і вярнуць Жаныша Бакіева, брата экс-прэзідэнта, які кіраваў расстрэламі дэманстрантаў у 2010 годзе.

**Пакістан.** Быццам у мэтах яе бяспекі паліцыя затрымала 11-гадовую дзяўчынку-хрысціянку з затрымкай развіцця, якая выдрала некалькі лісткоў з кнігі св. пісання Карана.

**ЗША.** Толькі за тыдзень яшчэ каля 700 чалавек захварэлі ліхаманкай "Заходняга Ніла", памерлі 36, вірус ад камароў і птушак імкліва распаўсюджваецца па Еўропе і ў Расіі.

**Італія.** У краіне адбылося сёлета ўжо з-за спёкі 6,2 тысячы буйных лясных пажараў на плошчы 35 тысяч га, агонь знішчыў вялікія лясныя масівы, 14 млн. птушак і жывёл.

**Расія.** Пасля асуджэння на 2 гады групы Pussi Riot яе прыхільнікі ўзламалі сайт Хамоўніцкага суда Масквы, на ім з'явілася ў раздзелах шмат жорсткай крыцікі Пуціна.

**Харватыя.** У сталіцы краіны Заграбе ўзброеная жанчына ў адзіночку раззброіла ахоўніка банка, заперла некалькі чалавек у прыбіральні і скрала з касы 50 тысяч еўра выручкі.

# Як беларусы будуць плаціць за электраэнергію




■ nn.by

**Сям'і з трох чалавек с газавай плітой установяць ліміт электрычнасці 100 кВт•г за месяц. У выпадку перавышэння ліміту прыйдзецца плаціць удвая больш.**

У ДВА «Белэнерга» распрацаваны дыферэнцыраваныя тарыфы на аплату электраэнергіі, зыходзячы з колькасці прапісаных у кватэры чалавек і сезона. Пра гэта паведаміў сёння на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік упраўлення збыту гэтай арганізацыі Сяргей Шэбека.

Паводле яго слоў, у кватэрах з газавымі плітамі ў міжацяпляльны сезон (з 1 красавіка па 30 верасня) плануецца ўсталяваць сацыяльны тарыф 70 кВт•г на аднаго чалавека і па 15 кВт•г на кожнага дадаткова зарэгістраванага чалавека. Такім чынам, для сям'і з трох чалавек будзе дзейнічаць нарматыў 100 кВт•г. У ацяпляльны сезон (з 1 кастрычніка па 30 сакавіка) тарыф на аднаго чалавека складзе 80 кВт•г, на кожнага іншага члена сям'і — плюс 15 кВт•ч.

У выпадку расходу электраэнергіі звыш гэтай нормы жыхарам прыйдзецца плаціць 595 рублёў за кВт•г, што ў два разы больш, чым сёння.

У кватэрах з электрычнымі плітамі прапануецца наступная схема: у міжацяпляльны сезон 120 кВт•г на аднаго чалавека і 20 кВт•г на кожнага дадаткова зарэгістраванага. У зімовы сезон, адпаведна, 135 кВт•г і 20 кВт•г.

Па словах Сяргея Шэбекі, канчатковае рашэнне па гэтым пытанні яшчэ не прынята.

Памеры сацыяльных тарыфаў будуць вынесены на грамадскае абмеркаванне (тэлефоны «гарачых ліній» паведамяць дадаткова). Меркаванні грамадзян будуць вывучаць да 1 лістапада.

Прадстаўнікі «Белэнерга» таксама ўдакладнілі, у гэтым годзе новыя тарыфы дакладна ўведзены не будуць.

Спецыялісты ўдакладнілі: калі ў кватэры ніхто не прапісаны, плата за электрычнасць будзе спаганяцца, зыходзячы з тарыфу 595 рублёў за кВт•г.

Дадзены кошт у «Белэнерга» называюць эканамічна абгрунтаваным і прывязаным да ўзроўню заробкаў насельніцтва. Разам з тым нават пры такім тарыфе энергазабеспячальныя арганізацыі будуць несці страты, запэўніла журналістаў в. а. намесніка гендырэктара «Белэнерга» Ніна Грэчыха. Паводле яе слоў, сёння насельніцтва аплачвае 3 цэнты за кожны кілават, тады як для стопрацэнтнага пакрыцця выдаткаў трэба плаціць у тры разы больш.

Выхад на поўную аплату коштаў электраэнергіі насельніцтвам у Беларусі запланаваны на 2015 год.

Па словах спецыялістаў, вызначаны некаторыя катэгорыі грамадзян, якіх не закрануць дыферэнцыраваныя тарыфы. Да іх аднесены шматдзетныя сем'і. Разам з тым у «Белэнэрга» не лічаць, што новыя тарыфы моцна ўдарадць па кішэнях беларусаў. На прэс-канферэнцыі прагучала такое меркаванне: «Людзі плацяць за размовы па мабільным тэлефоне па 50 тысяч у месяц і не скардзяцца, што грошай не хапае. У той жа час за электраэнергію плацяць усяго 30–40 тысяч рублёў — гэта малыя грошы».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка запатрабаваў правесці мадэрнізацыю ў жывёлагадоўлі і ўжо ў гэтым годзе адысці ад даення кароў у вёдры, найбольш праблем на Віцебшчыне, Гомельшчыне.

**Ждановічы.** Новы рэкорд намалоту збожжа – 6385 тон за адзін сезон уборкі ўстанавіў на камбайне "Лексіён-770" лепшы работнік мясцовага агракамбіната Міхаіл Саладуха.

**Брэст.** Міліцыя затрымала дваіх гараджан, якія вясной увезлі ў краіну больш за 600 тысяч падробленых долараў купюрамі па 100 долараў, частку лжэвалюты яны патрацілі на пакупкі.

**Жлобін.** Пасля гісторыі з палётам шведскага самалёта ў РБ значна вырас попыт на розных плюшавых мядзведзяў мясцовай фабрыкі штучнага меху, да 80 % асартыменту продаж.

**Мінск.** Старшыня Цэнтрвыбаркама Л. Ярмошына прызнала, што ў нас выбары ў калгасе і ў парламент не адрозніваюцца, гледзячы на ўзровень жадаючых заняць месцы дэпутата.

**Ляхавічы.** Па невядомай прычыне позна вечарам загарэліся мехмайстэрні СВК "Канюхі", у выніку пажару за паўгадзіны агонь знішчыў 4 аўтамабілі, 15 адзінак тэхнікі выратавалі.

**Мінск.** За адны выхадныя ў сталіцы скончылі жыццё самагубствам 4 жанчыны і адзін мужчына, а вучаніца 10 класа выкінулася і забілася насмерць з даху 22-павярховага жылога дома.

**Бяроза.** Адразу 333 гектары зямлі роднай вёскі Сабалі перадалі па ўказу А. Лукашэнкі ва ўласнасць кампаніі "Трайпл" буйнога беларускага алігарха-бізнесмена Ю. Чыжа.

**Светлагорск.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць суддзі райсуда В. Вашчыліна, якога КДБ затрымаў у момант быццам атрымання хабару за паслугі.

**Смалявічы.** Па прыгавору суда адабралі незаконна атрыманы зямельны ўчастак у сына экс-намесніка старшыні райвыканкама, а яго бацька атрымаў 4,5 гады за злоўжыванні.

**Шчучын.** Група мясцовых краязнаўцаў знайшла на беразе Нёмана ўнікальную загадкавую каменную ікону, створаную на мяжы 17-18 стагоддзяў, калі тут раней мог стаяць храм.

**Мінск.** Двойчы сярэбраны прызёр Алімпіяды-2012 Аляксандра Герасіменя аплаціла аперацыі па аднаўленні зроку двум хлопчыкам, раней яна адмовілася плаваць за Расію.

**Бяроза.** Ураганны вецер з навальніцай разбурыў збожжасховішча райаграсервіса, болей за гадзіну затрымаў на станцыі 3 цягнікі, на Брэстчыне траўмы атрымалі тры чалавекі.

**Валожын.** Мастак і музыкант Аляксандр Лось сабраў на сваім хутары Барок унікальную калекцыю музычных інструментаў, сярод іх скрыпка 17 стагоддзя, рэдкі саксафон.

**Мінск.** Па дадзеных таварыства "Адпачынак у вёсцы", зараз у Беларусі з 2 тысяч зарэгістраваных аграсядзіб дзейнічаюць усяго 600, а толькі 200 адпавядаюць нарматывам.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Талачын.** Глава вобласці А. Косінец на абласным семінарынарадзе запатрабаваў да студзеня 2013 года ў раёнах на 257 існуючых фермах пазбавіцца ад даення кароў у вядро.

**Орша.** Мясцовы станкабудаўнічы завод "Красный борец" увайшоў у склад сёмага ў Беларусі прамысловага холдынга "Белстанкаінструмент" з 16 прадпрыемстваў галіны.

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь", як і сталічны холдынг "Гарызонт", спыніў вытворчасць аналагавых тэлевізараў, новыя тэлепрыёмнікі будуць толькі з лічбавымі цюнерамі.

**Багушэўск.** У мясцовым рыбагадавальніку пачаўся новы сезон пуціны, акрамя карпу і белага амуру пачалі рэалізоўваць і фарэль, намечана прадаць да 50 тон гэтай рыбы.

**Віцебск.** Сведка ДТЗ са смяротльным вынікам, 22-гадовы студэнт-завочнік дапамог міліцыі затрымаць гора-кіроўцу, які збіў позна вечарам 8-класніцу і хацеў уцячы.

**Полацк.** З-за недахопу вучняў (усяго 17 чалавек) у вёсцы Труды закрылі трохпавярховую ўтульную базавую школу, бацькі дзяцей і настаўнікі 3 гады перашкаджалі гэта зрабіць.

**Орша.** Да новага навучальнага года ў Арэхаўскай СШ зрабілі прыбудову з новай сталовай і спартыўнай залай, у яе будынку замянілі вокны, вобласць набыла 21 школьны аўтобус.

**Мёры.** У рамках праекта "Выратуем Ельню разам!" арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" ў 5-ы раз правяла акцыю па рамонце плацін буйнейшага балота Еўропы.

**Віцебск.** Незалежная журналістка Алена Сцяпанава стала 11-й па ліку сёлета ў Беларусі, якую пракуратура прэ—вентыўна папярэдзіла аб недапушчальнасці працы на замежныя СМІ

**Лепель.** На тэрыторыі раёна міліцыя затрымала буйны груз каляровых металаў з 20 тон алюмініевых сплаваў, жыхар Вілейкі перавозіў без дакументаў на аўтамабілі МАЗ-МАН.

**Браслаў.** Пры падтрымцы Нацпарка і райспарткамітэта навучэнцы гімназіі ажыццявілі тыднёвы захапляльны водны паход даўжынёй 150 кіламетраў на 11 байдарках і двух лодках.

**Талачын.** На пе—ракрыжаванні вуліц у райцэнтры пажылы п'яны трактарыст калгаса "Коханаўскі" не прапусціў грузавік, у выніку ДТЗ загінула 56-гадовая гараджанка.

**Орша.** За знявагу прадстаўніка ўлады ў Інтэрнеце гараддзел Следчага камітэта распачаў справу супраць актывіста, экс-дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Мікалая Петрушэнкі.

**Полацк.** Днём 25-гадовы вадзіцель пры развароце на перакрыжаванні вуліц праваліўся са сваім аўтамабілем ў яму, якую не агарадзілі падчас рамонту гарадской цеплатрасы.

**Наваполацк.** Агонія футбола вобласці працягваецца, ФК "Нафтан" апынуўся ў зоне вылету з вышэйшай лігі, у 1-й лізе ФК "Віцебск" мае мала шанцаў вярнуцца ў эліту.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Дзень ведаў Мосар адзначыў выставай старажытнай кнігі “Скарбы вякоў” і кірмашом рэлігійнай кнігі

■ **Кс. Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар.*



**Ва ўсіх касцёлах на Беларусі на пачатку навучальнага года адбываецца малітва за ўсіх, хто пазнае створаны Богам навакольны свет, вывучаючы дакладныя навукі ў школе ці ўніверсітэце, а таксама самаго Бога на занятках па рэлігіі ў касцёле.**

У нядзелю, 2 верасня, пасля Святочнай Літургіі ў 13 гадзін адбылося спецыяльнае благаслаўленне вучняў, студэнтаў і настаўнікаў, а таксама асвячэнне кніг і падручнікаў.

На распачацце навучальнага і катэхэтычнага года варта было ўшанаваць кнігу, асабліва Святое Пісанне – Біблію, бо Бог звяртаецца да нас, каб мы не заблукалі ў нашым бурлівым зямным жыцці, каб заўсёды маглі бачыць сэнс жыцця.

Старажытныя кнігі маюць вялікую каштоўнасць, таму мы іх клапатліва зберагаем і захоўваем, але кожная добрая кніга мае вялікую вартасць. Ці мы памятаем аб гэтым? Дацаніць вартасць кнігі і пераасэнсаваць яе ролю ў нашым жыцці на Дзень Ведаў можна было ў Мосары.

У Парафіяльным доме ў Мосары 1-2 верасня з 11 гадзін праходзіла выстаўка старажытнай кнігі XVII-XIX стагоддзя “Скарбы вякоў”, на якой былі прадстаўлены старыя метрычныя і літургічныя кнігі парафіі.

У гэтыя дні ў касцёле адбываўся таксама і кніжны кірмаш каталіцкіх выдавецтваў, на якім можна было набыць кнігі хрысціянскай тэматыкі.

Падрабязная інфармацыя на сайце:

**http://mosar.vickyblog.com**



# У 2013 годзе на аднаўленне гістарычных помнікаў выдаткуюць $70 мільёнаў

**Міністэрства культуры Беларусі плануе ў 2013 годзе выдаткаваць на аднаўленне помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны каля 590 мільярдаў рублёў. Гэта каля $70 мільёнаў у эквіваленце. Пра гэта паведаміў намеснік міністра культуры Віктар Кураш падчас круглага стала, прымеркаванага да Еўрапейскіх дзён спадчыны.**

Цяпер рэстаўрацыйна-аднаўленчыя работы на аб’ектах вядуцца ў адпаведнасці з дзяржпраграмай «Культура Беларусі» на 2011–2015 гады. Саветам Міністраў зацверджана дзяржпраграма «Замкі Беларусі», разлічаная да 2018 года (да гэтага часу будуць праведзены работы на 38 аб’ектах).

Фінансаванне ажыццяўляецца і па дзяржаўнай інвестыцыйнай праграме.

*БелТА*



**Руіны вежы замка Белы Ковель у Смалянах (Аршанскі р-н).**

# У Глыбокім асвяцілі праваслаўную капліцу святога Панцелеімона

■ **Кастусь Шыталь**

**Праваслаўная капліца святога Панцелеімона, якая збудаваная каля раённай бальніцы, была ўрачыста асвечаная 7 верасня, паведамляе «Веснік Глыбоччыны».**

На будаўніцтва храма пайшло тры месяцы. Вуглавы камень асвячалі 7 чэрвеня.

Ідэю збудаваць капліцу каля бальніцы падаў старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат.

Святы Панцелеімон жыў у канцы III - пачатку IV стагоддзя ў Малой Азіі. Меў адукацыю ўрача, аднак многіх хворых ацаляў малітвай. У 305 годзе катаваны і забіты на загад імператара Максіміяна.



# Паўла Сухога хрысціў пратаіерэй Вілляноўскі. Ягоны помнік на Копцеўцы разгромлены вандаламі...

■ **Ул. Скрабатун**

Нядаўна аўтару гэтых радкоў са здымачнай групай аднаго тэлеканала давялося павандраваць па Глыбоччыне і Пастаўшчыне. Зразумела, ніякага ўдзелу ў здымачным працэсе я не браў, а хутчэй выконваў ролю праваднiка па Глыбоччыне і Пастаўшчыне, шукаў ці падказваў патрэбных людзей для інтэрв'ю. Не буду раскрываць таямніцы фільма, хай гэта застаецца інтрыгай да яго выхаду на экраны, адзінае, што скажу, - гэта аповяд пра цяжкія 1945-1955 гг.

Завіталі ў вёску Парыж (Пастаўскі)... Нам трэба было знайсці месца колішняга хутара Любянішкі, адкуль па сцэнару, пачынаецца ўся гэтая гісторыя. Зайшлі ў бібліятэку, запыталі на вуліцы ў колькіх тубыльцаў, але пра хутар Любянішкі ніхто не чуў. І тут мне ўспомнілася, што жыве ў Парыжы спадарыня Васілеўская, якая непасрэдна і спрычынілася да таго, што колішняй вёсцы Навадруцк вярнулі яе ранейшую назву – Парыж. Ну, яна як краязнаўца павінна ж ведаць! Завіталі.



**Копцеўка. Помнік на магіле Іларыёна Вілляноўскага. Вялікі гранітны крыж, які стаяў на пастаменце, ужо даўно разбіты вандаламі, валяецца долу.**

– Любянішкі? Там, дзе Жыхар нарадзіўся? Дык гэта вам трэба ехаць у Верацеі да Далманіхі. Там той хутар стаяў, але сама я там ні разу не была,– параіла ініцыятарка перайменавання Навадруцка ў Парыж.

Уразіў адказ спадарыні Васілеўскай, бо пра Жыхара мы і не пыталіся. Інтуіцыя! Паехалі...

Верацеі. Дабротны дамок з белай цэглы, які хаваецца ў шатах векавых дубоў, клёнаў і ліп. Пастукалі ў дзверы. Як сталася, менавіта тут і жыве Далманіха. Праўда, гаспадыня, спадарыня Ксенія, удакладніла, што правільнае вымаўленне прозвішча не «Далман», а Даламанаў. Ксенія Міхайлаўна Даламанава, 1926 г.нр., дачка легендарнага лекара.

Маладыя чытачы, напэўна, і не чулі пра такога славутага знахара як Далман (Даламанаў). Лячыў, як кажуць у народзе, вадой. У савецкія часы быў персанажам для шматлікіх фельетонаў, дзе бэсцілі «знахара-шарлатана», які з дурных людзей браў грошы за «загаворную» ваду, а яна нічым хворым людзям не дапамагала. Ды й я добра памятаю, як быў малым, а маці прыносіць са скрынкі газету і кажа: «Зноў пра Далмана напісалі...»

Аднак, нешта потым змянілася, бо фельетонаў у газетах ужо не было. Ці гэты знахар-лекар некаму з высокіх чыноў вельмі дапамог сваёй вадой, ці яшчэ нешта, а мо й самі, акрыяўшыя ад хваробаў людзі, закідалі Маскву пісьмамі – у Верацеях з'явіўся прыпынак на чыгунцы, «каб людзі з усяго Саюза» маглі прыехаць да Далмана (Даламанава).

Пра Далмана апавядаюць і сёння самыя неверагодныя гісторыі. Ён чытаў думкі людзей! Самы тыповы прыклад... Ідзе чалавек да Далмана за гаючай вадой, а ў руках хатуль з дарункамі. І тут у яго ў галаве ўзнікае думка: «Занадта шмат будзе гэтых дарункаў Далману! Хопіць і паловы!» І пакідае рэшту пад мастом. Атрымаў чалавек тое, што хацеў ад лекара, аддзячыў дарункам ды зазбіраўся дадому. А Далман яму ўслед: «Вы ж не забудзьцеся забраць з сабою тое, што пакінулі пад мастом!»



**Апавядае Ксенія Даламанава.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Я не ўстрымаўся ад пытання: «Ці праўда, што славуты лекар чытаў думкі людзей, ці гэта звычайная народная містыфікацыя?»

– Так! Праўда,– кажа сцвярджальна Ксенія Даламанава.

– А што гэтая за цудадзейная вада такая была ў Далмана?

– Гэта, найперш, малітва, а не толькі адна вада!

– А самі Вы практыкуеце цяпер?

– Не! У мяне няма такіх здольнасцяў! Ваду ж даю толькі самым блізкім і знаёмым людзям. Вам не дам!

– А дзе тая студня?

– І сёння ёсць (яна ўказала накірунак рукой).

– Адкуль такое цікавае і не натуральнае для нашых мясцінаў прозвішча – Даламанаў.

– Род Даламанаў паходзіць з Варонежа. Даламанавы былі святарамі. Мой дзядуля прыехаў сюды ў той час, калі скасоўвалі унію і пераводзілі былых вернікаў уніятаў у праваслаўе. Трэба было праводзіць тут адпаведную палітыку, каб былыя ўніяты не перабеглі раптам да каталікаў, а сталі праваслаўнымі. Мой дзядуля, святар глыбоцкай царквы, протаіерэй Вілляноўскі, хрысціў будучага авіяканструктара Паўла Сухога.

– Так? Неверагодна! Але ж помнік на яго магіле, які побач з Іллінскай капліцай – разгромлены вандаламі!– каментуе аўтар гэтых радкоў

– Так! Разгромлены!– паўтарае Ксенія Даламанава.

– Шкада! Я думаю, што трэба сабраць ахвяраванні і аднавіць гэты помнік. Усё ж і турысты наведваюцца на гэтыя могілкі не толькі з-за калоны ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791 года.

– А чаго вас так зацікавіў Жыхар?– пытае спадарыня Ксенія.

– Гэта фільм не пра Жыхара, а пра цяжкія 1945-1955 гг. Пра яго згадваюць хіба што не больш хвіліны,– удакладняю.

– Я ж ягоная – аднакласніца. Вучылася з ім з першага па чацвёрты клас. Яўген Жыхар вучыўся вельмі добра, асабліва давалася яму матэматыка, але быў нейкі замкнёны, негаваркі... Пры немцах скончыў настаўніцкую семінарыю... А чаго ён пайшоў пасля вайны ў лясы – не разумею! Гэта, пэўна, бацька яго збаламуціў, які ўвеў яму ў вушы, што хутка сюды прыйдуць амерыканцы.

– Неверагодна! Як усё пераплецена ў гэтым свеце! Цесна! Жыхар, аднакласніца Жыхара, лекар Далман, пратаіерэй Вілляноўскі, дзядуля Ксеніі Даламанавай, які хрысціў будучага авіяканструктара Паўла Сухога...

Спадарства! Я думаю, што трэба сабраць ахвяраванні і аднавіць вялікі гранітны крыж, які разбілі вандалы на надмагільным помніку пратаіерэя Вілляноўскага. Гэта ж усё – нашая гісторыя!

# Захаваць памяць аб загінуўшых – наш святы абавязак

■ Яўген Самсонаў

**Гэтая вандроўка з панам Уладзіславам Краўчуком, старшыней Нацыянальнай Асацыяцыі Браслаўчан, была не першай.**

Напачатку лета мы наведвалі стражніцу Каменны Воз, дзе загінуў слаўны сын польскага народа Павел Палчынскі, пабывалі на Копцеўскіх могілках у Глыбокім, дзе перазахаваныя яго парэшткі.

Па замове пана Уладзіслава, 3 верасня 2012 года, мы (аўтар гэтых радкоў у якасці кіроўцы, гіда і відэааператара) завіталі спачатку ў вёску Селішча на руіны разбуранага касцёла, наведалі мемарыяльны комплекс "Прарыў" ва Ушацкім раёне і ў барку ля вёскі Мікалаёва Шумілінскага раёна аддалі даніну павагі вязням Беразвецкай трагедыі, расстраляных НКВДоўцамі ў чэрвені 1941 года.

На месцы разбуранага захавання польскіх і рускіх вайскоўцаў, якое знаходзіцца ў в. Чачукі Докшыцкага раёна, ушанавалі памяць аб воінах, загінуўшых у баі 1919 года.

Падчас мерапрыемства па ўшанаванні памяці адбылася задушэўная размова паміж мясцовай жыхаркай Аленай Канстанцінаўнай Транчэўскай і Уладзіславам Краўчуком. Алена Канстанцінаўна распавяла, са слоў сваіх бацькоў, пра той жудасны бой, які тут праходзіў, пра гісторыю і лёс помніка. Пан Уладзіслаў, з педантычнасцю былога афіцэра войска польскага, шчыра дзякаваў спадарыні Алене за збераженне памяці аб загінулых жаўнерах і запэўніў, што польскі бок зробіць усё магчымае па аднаўленні помніка.

Без мінулага няма будучыні. З вялікай павагай я стаўлюся да кіраўніцтва Польшчы і польскага народа, якія шмат робяць для таго, каб ушанаваць памяць пра сваіх загінуўшых грамадзян. Менавіта для іх адносяцца радкі Р. Раждзественскага :

Успомнім усіх паіменна,
Горам успомнім сваім,
Гэта трэба не мёртвым,
Гэта трэба жывым.

Бог суддзя тым, па чыёй віне замоўчвалася ці перайначвалася праўда ў нашай гісторыі. Кожны нясе свой крыж і, як вядома, сіла ў Праўдзе. Праз дзесяцігоддзі і вякі яна выходзіць на паверхню. 50 гадоў сваякі расстраляных вязняў Беразвецкай турмы з наваколляў Браслава, Мёраў, Шаркоўшчыны, Докшыц, Пастаў, Глыбокага не ведалі месца пахавання сваіх родных. Не выключна, што сярод дзяцей ці ўнукаў, бязвінна загінуўшых ксяндзоў, лекараў, настаўнікаў, афіцэраў, інжынераў, музыкаў, артыстаў, сялян і рабочых, былі праўладныя чыноўнікі, якія, зацугляныя страхам і клопатам у першую чаргу аб асабістым дабрабыце і службовым росце, здрадзілі памяці сваіх продкаў. Усё патаемнае некалі становіцца яўным, таму не цяжка здагадацца, якую вагу будзе мець іх аўтарытэт у вачах ужо іх унукаў і праўнукаў у радаводзе свайго сямейнага дрэва.




У. Краўчук на месцы мемарыялу расстраляным вязням Беразвецкай турмы, в. Мікалаёва.



Вёска Чачукі. Уладзіслаў Краўчук і Алена Транчэўская.



На месцы былой стражніцы Каменны Воз.

# Вялікі тэніс на Глыбоччыне



Каманда "Докшыцырайгаз", злева направа: І. Міхалко, В. Гадулевіч, В. Яцук

■ Яўген Самсонаў

**2 верасня ў Глыбокім адбылася матчавая сустрэча па вялікаму тэнісу, прысвечаная Дню беларускай пісьменнасці, паміж глыбоцкімі і докшыцкімі камандамі.**

Глыбоцкі раён прадстаўлялі: Яўген Палячонак, Андрэй Герашчанка і Людміла Баговіч. Ім супрацьстаяла каманда "Докшыцырайгаз" – Віктар Яцук, Ігар Міхалко і Вольга Гадулевіч.

Барацьба была напружанай. У камандным заліку 2:1 перамаглі Глыбачане. А вырваў перамогу для сваёй каманды ў апошняй сустрэчы Я. Палячонак, які нанёс паражэнне І. Міхалку.

Не саступіў Яўген лідарства і ў асабістым заліку і быў прызнаны першай ракеткай матчавай сустрэчы. На другім месцы А. Герашчанка, а В. Яцук паказаў трэці вынік.

Пераможцы і прызёры былі ўзнагароджаны адпаведнымі Дыпломамі, медалямі і каштоўнымі падарункамі.

# Прадстаўніцтва Samsung рэалізуе праект «Смак беларускіх здымкаў» для папулярызацыі беларускай мовы

**Прадстаўніцтва Samsung Electronics у Беларусі 6 верасня ў Мінску прэзентавала праект «Смак беларускіх здымкаў». Ён стаў працягам праекта «Смак беларускай мовы», які меў на мэце папулярызацыю беларускай мовы.**

Мэта «Смаку беларускіх здымкаў», з аднаго боку, адлюстраваць мілагучнасць беларускай мовы, з іншага — прадэманстраваць функцыянальныя перавагі новых фотакамер.

Як заявіў кіраўнік прадстаўніцтва Samsung у Беларусі Еон Су Чой, кампанія Samsung Electronics родам з Паўднёвай Карэі, жыхары якой вядомыя сваёй прыхільнасцю да нацыянальных традыцый. Таму Samsung, працуючы ў 72 краінах, адаптуе сваю стратэгію пад кожнае канкрэтнае культурнае асяроддзе і актыўна падтрымлівае мясцовыя сацыяльныя і адукацыйныя праекты.

«Рэалізуючы праект «Смак беларускіх здымкаў», Samsung хацеў бы аддаць даніну павагі беларускай нацыі, якая валодае адной з самых старажытных і мілагучных моў — беларускай. Разам з тым мы хацелі б паказаць, як лёгка можна адлюстраваць прыгажосць беларускай прыроды і людзей з дапамогай найноўшых фотакамер Samsung», — адзначыў Еон Су Чой.

Падчас прэзентацыі праекта беларускія журналісты і блогеры зрабілі здымкі для плакатаў, якія з 20 верасня з`явяцца на цэнтральных вуліцах Мінска і пасадзейнічаюць папулярызацыі роднай мовы сярод сталічных жыхароў.

Здымкі для сацыяльнага плаката можна было зрабіць з дапамогай кансультантаў у трох фотазонах: «Смак беларускай мовы (расліны)», «Прыгажосць беларускай мовы (людзі)», «Багацце беларускай мовы (жывёлы)».

*Аляксей Арэшка, БелаПАН*



## Зёлкі нашага краю

# Дзягіль

**Шмат у каго за плотам, найчасцей у вільготных мясцінах расце гэтая высокая расліна, якая мае выключныя лекавыя ўласцівасці. Але большасць пра тое не ведае, лічыць звычайным пустазеллем, якое часта трапляе пад касу гаспадара прысядзібнага ўчастка.**

**Мы не ставілі на мэце навучыць нашых чытачоў народнай медыцыне, бо ў час інтэрнету можна знайсці больш інфармацыі, чым ў прапанаваным намі газетным артыкуле. Мы зыходзілі з таго, што большасць нашых чытачоў часам і не здагадваецца, не падазрае – у іх за плотам расце ледзьве не жэньшэнь. Мы проста даём падказку, а ўжо самі шукайце патрэбную вам літаратуру.**

**Нагадаем, што раней мы пазнаёмілі нашых чытачоў з такімі зёлкамі нашага краю, як ягель і ісландскі мох.**

■ **Ул. Скрабатун**

Дзягіль лекавы (Archangelica officinalis L.). Дзягіль – высокая, да 2 метраў, расліна з разьбяным лісцем і вялікім парасонікам жаўтлява-зеляняых ці белых дробных кветак. Дзягіль валодае моцным водарам і магутнай каранёвай сістэмай; карэнішча кароткае, тоўстае, са шматлікімі каранямі і духмяным пахам. Сцябло прамастаячае, галінастае, усярэдзіне полае з шызым налётам. Лісце дзягіля буйное, чарговыя, голыя, двойчы- і тройчыперыстыя, з цыліндрычнымі хвосцікамі і ўздутымі перапончатымі похвамі. Квітнее на 2-і год жыцця, у чэрвені-жніўні. Кветкі дзягіля белыя, дробныя, сабраныя ў шарападобны парасонік. Плод – двусямянка саламяна-жоўтага колеру.

Лекавай сыравінай служаць карэнішчы з каранямі дзягіля, якія валодаюць прыемным асвяжальным пахам. У 1-ы год расліны збіраюць увосень, на 2-і - ранняй вясной. Дзягіль мае духмяны пах.

У каранях дзягіля ўтрымоўваюцца да 1% эфірнага масла, да 6% смолаў, арганічныя кіслоты (яблычная, ангелікавая, валерыянавая, воцатная), горкія і дубільныя рэчывы, фітастэрыны, цукры, воск, пяктынавыя рэчывы, каратын. Карані дзягіля валодаюць моцным араматычным пахам, саладкавым, рэзкім, пякуча-ялкавым смакам. Эфірнае масла з каранёў дзягіля – вадкасць рэзка-пякучага смаку з мускусным пахам. Галоўная складовая частка масла – феландрэн, а характэрны пах яму надае лактон аксіпентадэцылавай кіслаты – амбрэталід.

**Па сваіх добрых якасцях дзягіль саступае толькі жэньшэню.**

Дзягіль з найстаражытных часоў лічыўся лекавай раслінай, якая ўмацоўвае сэрца, стымулюе кровазварот і дадатна дзейнічае на імунную сістэму.

Дзягіль аказвае танізавальны ўплыў на сардэчна-сасудзістую і цэнтральную нервовую сістэмы, павялічвае жоўцеадлучэнне і сакрэцыю панкрэатычнага соку. Дзягіль ужываецца пры падагры, рэўматызме і болях у паясніцы выкарыстоўваюць спіртавыя настойкі для расціранняў; рэкамендуецца пры жоўцевакаменнай хваробе, захворваннях нырак, уваходзіць у склад збораў пры алкагалізме.

Дзягіль валодае адхарквальным, мачагонным, супрацьзапаленчым, антымікробным уласцівасцямі, узмацняе маторную і сакраторную функцыю залоз унутранай сакрэцыі, паляпшае мікрацыркуляцыю крыві, супакойвае, змяншае артэрыяльны ціск. Дзягіль утрымоўвае значную колькасць вітаміна B12, валодае халестэрынапаніжальным дзеяннем.

Ужываецца дзягіль для лячэння бясплоддзя ў анемічных жанчын, пры парушэнні кровазвароту, пры бледнасці і сухасці скурных пакроваў, дарадавай і пасляродавай слабасці, крывяністых менструацыях, галавакружэннях.

У якасці ўтэратанічнага сродку, дзягіль ужываецца для лячэння аменарэі, альгадысмінарэі, для нармалізацыі кровазвароту ў органах малога таза.

У Еўропе дзягіль выкарыстоўвалі для лячэння бранхіту, прастуды, кашля, нястраўнасці страўніка і стымулявання апетыту. Дзягіль валодае ўласцівасцямі антысептыку, таму ўжываецца пры цыстытах і рэўматычных запаленчых працэсах. У кітайскай медыцыне вядома дзесяць гатункаў дзягіля, якім прыпісваюцца наступныя ўласцівасці: барацьба з бясплоддзем, умацаванне духу, прафілактыка жаночых захворванняў. Па сваіх добрых якасцях дзягіль саступае толькі жэньшэню.

У хатніх умовах ужываюць дзягіль пры псарыязе, завяданні скуры, скурных раздражненнях. Дапамагае пры спазмах страўніка і кішэчніка, а таксама пры прастудных захворваннях.

Высока шануецца дзягіль як аддушка ў касметыцы і парфумерыі, асабліва ў адэкалонах і духах усходняга кірунку. Ужываецца і як араматызатар харчовых прадуктаў, алкагольных і безалкагольных напояў.

**Спосаб прыгатавання і ўжывання:** 1 сталовую лыжку кораня дзягіля заліць 250 гр. кіпеня, кіпяціць 5 хвілінаў, працадзіць. Прымаць па 1/3 шклянкі 3 разы ў дзень да ежы.

**Супрацьпаказанні**: не варта ўжываць падчас цяжарнасці і пры дыябеце, індывідуальная непераноснасць.



**Дзягіль.** Паглядзелі Вы на здымак і адразу ўспомнілі, што гэтая расліна Вам добра вядомая!

**Гэтая зёлка прадаецца і ў аптэцы**

# Каб паляванне было ў радасць

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Паляванне, адно з найлюбых заняткаў не толькі мужчын, але ўсё часцей і жанчын. Шматлікія паляўнічыя з нецярпеннем чакаюць адкрыццё сезону загоннага палявання з сабакамі. Перадаць пачуццё хвалявання, захаплення, адрэналіну, які выдаткоўваецца падчас загоннага палявання, не магчыма, як толькі паляўнічы чуе першыя галасы загонных сабак, што раздаліся побач, паляўнічы сціскаецца, як спружына, і чакае дзікага звера. І далёка не заўсёды ў напружанай барацьбе чалавек са стрэльбай выходзіць пераможцам. Дзікі звер вельмі асцярожны і разумны, асабліва кабан, які вынюхае, выслухае ўсё вакол і, толькі пераканаўшыся, што няма небяспекі, будзе ўцякаць у іншае месца. Таму, здабыты паляўнічым трафей, - гэта заўсёды маленькая перамога. Для таго, каб паляванне прыносіла толькі задавальненне і радасць неабходна строга выконваць Правілы палявання, тэхніку бяспекі на паляванні і быць проста сапраўдным паляўнічым, а не нарыхтоўшчыкам мяса.

З 1 кастрычніка па 30 снежня дазволена паляванне на лася, аленя высакароднага, кабана, казулю еўрапейскую, лань еўрапейскую, аленя плямістага. Паляванне загонам і сабакамі дапушчаецца толькі ў светлы час сутак, з засады і з падыходу на працягу сутак. Спосаб палявання – стрэльбавы, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі, загонам, з засады, з падыходу.

Паважаныя паляўнічыя, перш, чым ісці на паляванне, уважліва прачытайце Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, асабліва спосабы палявання, час палявання, тэхніку бяспекі на паляванні. Вельмі часта грамадзяне, ажыццяўляючы законнае паляванне, парушаюць прыродаахоўнае заканадаўства, не выконваючы тэхніку бяспекі падчас правядзення загонных паляванняў, а гэта самавольны сыход са стралковага нумара, стральба па невыразнай бачнай цэлі, падчас моцнага дажджу, смугі, пераход з загону ў загон з неразраджанай стрэльбай і шмат чаго іншага. Правілы бяспекі на паляванні, на жаль, пісаныя крывёй паляўнічых. Штогод, пры правядзенні розных відаў палявання ў рэспубліцы гінуць дзясяткі паляўнічых. Віна адна – невыкананне элементарных правіл бяспекі.

Перад пачаткам палявання праверце абавязкова наяўнасць сапраўднага дзяржаўнага пасведчання на права палявання, сапраўднага дазволу органаў унутраных спраў на права захоўвання і нашэння зброі, паляўнічай пуцёўкі або разавага дазволу на здабычу паляўнічай жывёлы, сапраўдных рэгістрацыйных дакументаў на паляўнічых сабак.

Нягледзячы на забароны, строгія пакаранні за парушэнне Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, штотыдзень супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрымоўваюцца грамадзяне, якія здзяйсняюць незаконнае паляванне.

Так, 8 верасня 2012 года пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікі міжрайінспекцыі ў паляўнічых угоддзях установы Пастаўскага РДГА «БТПР» выявілі незаконна здабытыя дзве асобіны кабана сяголетка, (здабыча кабана сяголетка ў наш час забаронена). На месца выяўлення выклікаліся работнікі міліцыі, маюцца падазраванні ў незаконным паляванні, вырашаецца пытанне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы. Работнікамі міжрайінспекцыі будуць узмацняцца жорсткасць патрабаванняў да паляўнічых па выкананні правіл палявання, мер бяспекі.



Перш, чым ісці на незаконнае паляванне, або парушаць правілы палявання, добра падумайце.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства і пытаннях, якія ўзнікаюць, можна пазваніць па тэлефонах: 8-02156-286-70 «гарачая лінія», маб. т. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).

## МНС інфармуе
### на 10.09.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 818;
Гібель людзей – 99, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 452.474, млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 34;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 260 650 000 руб.

